## 150 000 БЕЛАРУСАЎ



З'ЯЗДЖАЮЦЬ ЗА МЯЖУ ШТОГОД

СТАР. 4-5

# ТУТ І ЦЯПЕР

WWW.SVABODABY.NET

## КАХАННЕ Ў ПОСТ

ЯК ЗАХВАЦЬ ПАВАГУ Ў СЯМ'І



СТАР. 6-7

БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

1.03.12-7.03.12 г.


# ЧАГО ЧАКАЦЬ АД КАНФЛІКТУ ЛУКАШЭНКІ З ЕЎРАЗВЯЗАМ

Беларусь зноў пакідаюць амбасадары краін Захаду. Аляксандр Лукашэнка, адчуваючы паўнавартасную падтрымку Масквы, ідзе на абвастрэнне




*Куды пойдзем?*

Сюжэт чарговага палітычнага трылера адпачатку быў закручаны вакол пасяджэння міністраў замежных спраў краін Еўразвяза 27 лютага, дзе мелася пашырыць спіс беларускіх чыноўнікаў, якім забаронены ўезд у ЕЗ. Напярэдадні Лукашэнка ў звыклым для сябе стылі пагражаў "жорсткім адказам" на санкцыі: *"Даже если мы останемся в одиночестве, без России, Китая, без других наших друзей, то, поверьте, мы здесь насмерть будем стоять, как когда-то в 1941–45 годах..."*.

На абарону кіраўніка Беларусі рынуўся яго нядаўні крытык зіц-прэзідэнт Расіі **Дзмітрый Мядзведзеў**. Яны распаўсюдзілі сумесную заяву наконт таго, што санкцыі маюць негатыўныя наступствы перадусім для простых грамадзян і заклікалі да раўнапраўнага дыялога.

Аднак гэта выглядала вельмі цынічна на тле апошніх падзей у Беларусі. Калі на пачатку лютага ішла гаворка пра хуткае вызваленне кагосьці са знакавых палітвязняў, то напрыканцы месяца быў вынесены чарговы палітычна матываваны прысуд: франтавец Сяргей Каваленка атрымаў 2 гады 1 месяц калоніі.

Нядзіўна, што Еўразвяз усёткі пашырыў санкцыі, хоць і не ў той ступені, што чакалася. Напрыклад, у чорны спіс пакуль што не трапіў бізнесовец Юрый Чыж — за яго заступілася Славенія. А напярэдадні фірма RIKO з гэтай балканскай краіны атрымала замову на будаўніцтва ў Мінску люкс-гатэля Kempinski...

"Жорсткі адказ Лукашэнкі" быў агучаны праз суткі. 28 лютага кіраўніку місіі Еўразвяза ў Беларусі Майры Мора і амбасадару Польшчы ў Беларусі Лешаку Шарэпку было "прапанавана" пакінуць нашу краіну, каб "давесці свайму кіраўніцтву цвёрдую пазіцыю беларускага боку пра непрымальнасць ціску і санкцый".

Рэакцыя Еўразвяза таксама не прымусіла сябе доўга чакаць. Было вырашана, што з Беларусі з'едуць усе амбасадары краін ЕЗ.

Выглядае, што такі крок быў для афіцыйнага Мінска ў пэўнай ступені нечаканым. У такіх сітуацыях сваіх амбасадараў прынята адклікаць аўтаматычна. Аднак раніцай 29 лютага Міністэрства замежных спраў Беларусі паведамляла, што такога рашэння пакуль што няма, хоць і не выключала, што яно будзе пазней.

Шматлікія каментары і прагнозы экспертаў гэтым разам істотна адрозніваюцца. Адны з іх лічаць, што дзеянні Лукашэнкі былі нервовымі, іншыя — што пралічанымі. Таму прадказаць далейшае развіццё падзей і наступствы вельмі складана.

*Заканчэнне на стар. 3*

НАВІНА

## УКРАІНА ЗАЧЫНЯЕ МЯЖУ АД БІЯЛАГІЧНАЙ ПАГРОЗЫ З БЕЛАРУСІ

**Галоўны дзяржаўны інспектар ветэрынарнай медыцыны Украіны Іван Бісюк часова забараніў увоз на тэрыторыю Украіны спрыяльных да афрыканскай чумы свіней (АЧС) жывёл, прадукцыі з свініны і сыравіны з іх з Беларусі.**

Абмежаванне імпарту мясной прадукцыі працягнецца да высвятлення ўсіх акалічнасцяў.

У ведамстве адзначылі, што ў сярэдзіне лютага ў вёсцы Нязнанава Навагрудскага раёна было канфіскавана і знішчана ўсё пагалоўе свіней з прыватных гаспадарак грамадзян. Згодна з заявамі Міністэрства сельскай гаспадаркі Беларусі і дэпартамента ветэрынарнага і харчовага кантролю рэспублікі, названыя дзеянні былі здзейсненыя ў рамках вучэнняў па барацьбе з афрыканскай чумой свіней.

Аднак існуе небяспека, што гэта былі не вучэнні, а рэакцыя на наяўнасць хваробы свіней.

Адначасова Украіна прыпыніла імпарт малочнай прадукцыі з 1 сакавіка. У гэтым выпадку Кіеў спасылаецца на сляды антыбіётыкаў у беларускай малочцы. Аднак тут справа можа быць і ў іншым. Расія з палітычных прычын спыніла імпарт украінскіх сыроў, і Кіеў такім чынам вызваляе рынак для ўласнай прадукцыі. На Беларусі адыгрываюцца як на прыдатку Расіі.

# ЦІ ТРЭБА ПЕРАНОСІЦЬ ЧЭМПІЯНАТ СВЕТУ ПА ХАКЕІ-2014 У ІНШУЮ КРАІНУ?

Вакол правядзення наступнага першынства свету па хакеі ў Беларусі распальваюцца жарсці. Да чаго могуць прывесці гэтыя жарсці і наколькі яны актуальны для нашага грамадства, аналізавала «Тут і цяпер».




**УЛАДЗІМІР МАЦКЕВІЧ, ПАЛІТОЛАГ:**

### «ВЕЛЬМІ СКЛАДАНА ЗВАРУХНУЦЬ МІЖНАРОДНУЮ ФЕДЭРАЦЫЮ ХАКЕЯ»

— Я думаю, што па сіле ўздзеяння на рэжым менавіта перанос чэмпіянату свету з'яўляецца наймацнейшым ударам, які можна нанесці. І калі гэта здарыцца, то будзе вялікай перамогай дэмакратычнай супольнасці над такімі рэжымамі, як беларускі. Наўрад ці гэта можна было б прымяніць, напрыклад, да нейкай афрыканскай краіны, дзе сядзіць свой дыктатар. І наўрад ці такая мера магла б парушыць рэжымы ў буйных краінах кшталту колішняга Савецкага Саюза ці Кітая. А для Беларусі гэта, напэўна, быў бы вельмі моцны ўдар. Іншая справа — ці магчыма гэта. Я разумею, што шмат хто ўжо выказаўся, уключаючы найбольш буйную партыю Еўропы.

Час ад часу палітыка ўрываецца ў спорт. Але ўсё ж такі кемлівыя кіраўнікі спартыўных федэрацый розных кран дбаюць пра тое, каб спорт заставаўся па-за палітыкай і спрыяў чалавечым стасункам, распаўсюджванню міру, спакою ў свеце. І цяпер будзе вельмі складана зварухнуць міжнародную федэрацыю хакея.

**ДЗМІТРЫЙ ДУДЗІК, ХАКЕІСТ, УДЗЕЛЬНІК РАЗГРОМУ ЗБОРНАЙ ШВЕЦЫІ НА АЛІМПІЯДЗЕ Ў СОЛТ-ЛЭЙК-СІЦІ:**

### «ПАЛІТЫКА НЕ ПАВІННА ЎМЕШВАЦЦА Ў СПОРТ»

— Толькі дурань не разумее, што перанос чэмпіянату можна будзе лічыць чыстай вады палітыкай. І гэта яшчэ адзін рычаг уздзеяння на Беларусь з боку Еўрасаюза. Усё гэта няправільна! Спорт павінен заставацца спортам, а палітыка — палітыкай. Да чэмпіянату свету ў нас будуецца столькі гасцініц, дарог і гэтак далей. У нас упершыню павінен адбыцца чэмпіянат свету ў групе «А». Беларусы столькі рыхтаваліся да гэтага чэмпіянату, і калі ён не пройдзе ў нас, то ў першую чаргу пацярпяць балельшчыкі...

**ВАЛЯНЦІН АКУДОВІЧ, ФІЛОСАФ:**

### «ШТОСЬЦІ ТРЭБА РАБІЦЬ»

— Усе санкцыі, што ЗША і Еўрасаюз арганізавалі для беларускай улады дзеля таго, каб яна абдумалася і спыніла рэпрэсіі, саступаюць сітуацыі з магчымым пераносам чэмпіянату свету па хакеі. Таму што для кіраўніка нашай дзяржавы сапраўднай рэлігіяй з'яўляецца не праваслаўе, а хакей. І калі такая працэдура будзе здзейснена, у яго будзе адабрана не проста любімая цацка, а нешта значна большае, блізкае да сэнсу яго існавання. Таму тыя людзі, якія шануюць свабоду, волю, вызваленне палітзняволеных, вяртанне да дэмакратычных форм існавання грамадства, павінны падтрымліваць гэтую ідэю. Хаця трэба ўсведамляць, што, калі гэта адбудзецца, можна чакаць усяго, чаго хочаш, бо гэта для Лукашэнкі вельмі сур'ёзна. І калі ён разбушуецца, невядома, чым усё скончыцца. А тое, што ў гэтага чалавека няма ніякіх правіл, мы ўжо цудоўна ведаем. Што ж да мяне, то я пастаўлюся станоўча, бо нягледзячы на тое, чым гэта скончыцца, штосьці трэба рабіць.

**АДАМ ГЛОБУС, ЛІТАРАТАР:**

### «НЕ ТРЭБА КРАЙНІМІ РАБІЦЬ КЛОЎНАЎ»

— Я памятаю, як у 80-м годзе на Алімпійскія гульні не прыехалі амерыканцы, немцы і шмат хто яшчэ. І каму ад гэтага стала лепш і што гэта змяніла? Нікому і нічога. А спартоўцы вельмі перажывалі, што не паўдзельнічалі ў Алімпіядзе. І на гэты раз ахвярамі стануць заўзятары і спартоўцы. Каму хто што хоча даказаць? Палітыкі? Дык дакажыце палітыкам! Супраць палітыкаў прымайце санкцыі, а не супраць аматараў хакея і гульцоў. Добра клоўна пабіць, таму што не адкажа. Вось на арэну клоўны не выйдуць, і вы ўсе заплачаце! Ну, заплачам. Не трэба крайнімі рабіць клоўнаў. Чэмпіянат — гэта вялікая падзея для горада, для культуры, для ўсіх людзей. У 80-м мы ўпершыню ўбачылі фанту, сервелат, і што бандытаў з прастытуткамі няма на вуліцах. Убачылі, што можа і так быць. Гэта вельмі памылкова — увязваць спорт, арэну, цырк з палітыкай.

**ІРЫНА, СТУДЭНТКА:**

### «СПАЧАТКУ ВЫЗВАЛЕННЕ ПАЛІТЗНЯВОЛЕНЫХ БЕЛАРУСІ»

— Разумна было б, каб з боку міжнароднай федэрацыі хакея паступіла яснае пасланне беларускім уладам: да траўня вызваляеце ўсіх палітзняволеных, і пункт пра перанос чэмпіянату здымаецца з парадку дня. Адказнасць за перанос павінен несці той, з-за каго гэтая каша заварылася. Калі хоць адзін палітзняволены застаецца за кратамі, то чэмпіянату ў Беларусі капут. І вінаватыя ў гэтым будуць не чыноўнікі міжнароднай федэрацыі.

**АПЫТАННЕ ПРАВОДЗІЎ ЗМІЦЕР ЗЯЗЮЛЯ**

**БЕЗЛІЧ АПТЫМІЗМУ**

### КАНГРЭС IIHF ПЕРАГЛЕДЗІЦЬ МЕСЦА ПРАВЯДЗЕННЯ ЧС ПА ХАКЕІ-2014

**Прычынай сталі бесперапынныя патрабаванні праваабаронцаў і сусветнай грамадскасці змяніць месца правядзення першынства.**

Пра гэта паведаміў шведскаму выданню Svenska Dagbladet менеджар Міжнароднай федэрацыі хакея Шымон Шемберг.

Па яго словах, абмеркаваць гэтае пытанне на кангрэсе IIHF, які збярэцца ў маі ў Хельсінкі, пастанавіў на сваім пасяджэнні Савет федэрацыі. Прычынай сталі бесперапынныя патрабаванні праваабаронцаў і сусветнай грамадскасці змяніць месца правядзення першынства.

*Заканчэнне.
Пачатак на стар. 1*

# ЧАГО ЧАКАЦЬ АД КАНФЛІКТУ ЛУКАШЭНКІ З ЕЎРАЗВЯЗАМ

Першае, што ўжо анансавана, — гэта верагоднае пашырэнне Еўразвязам візавых санкцый ужо ў сакавіку. Яно закране бізнесоўцаў, блізкіх да Лукашэнкі. І ўжо наўрад ці Славенія выратуе Чыжа.

Ідзём далей. У траўні Беларусь будзе рабіць на чарговым пасяджэнні кангрэса Міжнароднай федэрацыі хакея прэзентацыю сваёй падрыхтоўкі да чэмпіянату свету-2014, які мусіць адбыцца ў нашай краіне. Аднак цалкам імаверна, што ў гэтай сітуацыі паўстане пытанне пра перанос турніру. Праводзіць чэмпіянат свету ў дзяржаве, якая не мае нармальных дыпламатычных стасункаў з большасцю краін-удзельніц, мякка кажучы, рызыкоўна. Таму крок Лукашэнкі можа пазбавіць яго ўлюбёнай цацкі.

Беларускія ўлады ў сваю чаргу з вялікай доляй верагоднасці будуць узмацняць рэпрэсіі супраць апазіцыі, незалежных СМІ і грамадзянскай супольнасці. Чарговы віток спіралі напружанасці адбыўся ў тым ліку дзякуючы пазіцыі Масквы, якая падтрымлівае Лукашэнку і фінансава, і палітычна. Але неўзабаве Расія выставіць кіраўніку Беларусі рахунак за свае паслугі. І тады шукаць ратунку Лукашэнку давядзецца, наладжваючы адносіны з Захадам...

**ВАЛЯНЦІН СЫЧ**

**У ТЭМУ**

**Еўрапейскі Саюз можа ўвесці эканамічныя санкцыі супраць Беларусі. Латвійскім прадпрымальнікам варта лічыцца з такой магчымасцю, заявіў Латвійскаму радыё дзяржсакратар Міністэрства замежных спраў Андрыс Тэйкманіс.**

Паводле словаў дыпламата, адпаведнае рашэнне ЕС можа прыняць на працягу месяца.

— Гэта сапраўды магчыма. На гэты раз усё сур'ёзна, — прызнаў ён.

Па словах Тэйкманіса, Латвія не падтрымлівае эканамічныя санкцыі супраць сваіх суседзяў, паколькі яны могуць пагоршыць умовы жыцця звычайных грамадзян Беларусі.

Аднак многія іншыя краіны ЕС падтрымліваюць ўзмацненне жорсткасці палітыкі ў дачыненні да рэжыму Аляксандра Лукашэнкі.

*«Мы не падтрымлівалі санкцыі, і ў гэтым плане наша пазіцыя не змянілася. У любым выпадку, калі будзе прынята рашэнне аб санкцыях, мы зробім усё магчымае, каб нашы прадпрымальнікі пацярпелі як мага менш.*

*Але, думаю, Латвія не ў стане проста блакаваць ўвядзенне санкцый»*, — адзначыў ён.

У сувязі з гэтым МЗС плануе правесці кансультацыі з мясцовымі бізнесменамі, каб абмеркаваць сітуацыю. Сярод магчымых санкцый — забарона на кантакты з беларускімі прадпрымальнікамі, якім забаронены ўезд у ЕС.

Тэйкманіс дадаў, што Беларусь можа пазбегнуць санкцый, калі вызваліць каля васьмі палітычных вязняў.

*«Няўжо кожны з гэтых зняволеных варты мільённых страт для беларускай эканомікі. Беларусы самі павінны аб гэтым падумаць»* — сказаў ён.

Дадамо, раней аб магчымых дадатковых санкцыях у дачыненні да Беларусі заявілі прадстаўнікі Германіі, Францыі і Польшчы.

# ЯК БУДЗЕ ПРАЦАВАЦЬ ПРАЎЛАДНЫ "ЧОРНЫ СПІС"

Як стала вядома TUT.by з крыніц, блізкіх да кіраўніцтва краіны, беларускія ўлады плануюць пэўныя крокі ў "дыпламатычнай вайне", якая разгарнулася 28 лютага паміж Мінскам і Брусэлем.

У прыватнасці, ствараецца спіс на абмежаванне выезду з краіны, у які папярэдне ўвайшлі прозвішчы 108 грамадзян. Сярод іх фігуруе і прозвішча старшыні ГА «БАЖ» Жанны Літвіной.

Паведамляецца, што крытэрам унясення асобаў у гэты спіс былі прамыя заклікі да ўвядзення санкцый супраць Беларусі.

*"Калі сапраўды будуць уведзеныя такія абмежавальныя меры, калі гэты спіс уступіць у дзеянне, то, на мой погляд, гэта будзе крокам у бок самаізаляцыі Беларусі. Можна будзе толькі выказваць шкадаванне з нагоды пазбаўлення беларусаў і ўсёй краіны еўрапейскага выбару. Калі гэты крок будзе зроблены, ён праілюструе не сілу, а, наадварот, — слабасць беларускіх уладаў. Канстытуцыя і заканадаўства Беларусі гарантуюць свабоднае перамяшчэнне грамадзян, што з'яўляецца фундаментальным правам чалавека.*

*У законе "Аб парадку выезду з Рэспублікі Беларусь і ўезду ў Рэспубліку Беларусь грамадзян РБ" ёсць палажэнне, што грамадзянін не можа быць пазбаўлены права на выезд і ўезд у краіну. Часовае пазбаўленне гэтага права можа быць толькі ў выключных выпадках, пералічаных у законе. Калі такі крок будзе здзейснены, гэта будзе сведчыць, што ў нашай краіне заканадаўства мяняецца ў залежнасці ад палітычнай кан'юнктуры"*, - кажа **Жанна Літвіна**.

*"У маёй пазіцыі і ў пазіцыі арганізацыі з увядзеннем гэтых санкцый нічога не зменіцца. Зараз БАЖ рыхтуецца да чарговага з'езду, запланавана шмат паездак па рэгіёнах. Таму заняцца мне ёсць чым"*, - адзначыла ў гутарцы з прэс-службай БАЖ старшыня арганізацыі.

**РАЗАМ З ТЫМ**

Не выпусціць з краіны могуць, толькі калі гэта прапісана ў законе або паводле рашэння суда, тлумачыць Еўрарадыё н**ачальнік Дэпартамента па грамадзянстве і міграцыі МУС Аляксей Бягун.**

*"Усе падставы выкладзеныя ў законе для абмежавання права на выезд. Калі не будзе рашэння суда, не будзе крымінальнага права, то якое можа быць абмежаванне на выезд?".*




*Незваротныя забароны?*

*"Нашыя відаць блытаюць боб з гарохам,* — пракаментаваў Еўрарадыё **праваабаронца Гары Паганяйла**. — *Ёсць законы, дзе прапісаныя падставы, па якіх чалавек не можа выехаць за мяжу. Напрыклад, я маю запазычанасць па выплатах або з'яўляюся ўладальнікам абсалютна сакрэтнай інфармацыі, на працягу 5 гадоў мяне могуць не выпускаць…».*

# ШТОГОД ЗА МЯЖУ З'ЯЗДЖАЮЦЬ

**Пакуль адны з нас слухаюць абяцанкі-цацанкі ўладных асоб пра "сярэдні заробак у 500 долараў", другія ўжо расплюшчылі вочы, выйшлі з матрыцы і жахнуліся.**

Як жыць на востраве стабільнасці, дзе сярэдні заробак меншы за сярэдні кошт нават паловы квадратнага метра жылля, дзе чэргі ў дзіцячы садок трэба займаць яшчэ да нараджэння дзіця, а вучоба ў ВНУ здольна разарыць сям'ю? Леташні крызіс яшчэ больш павялічыў колькасць жадаючых пашукаць лепшай долі за межамі Беларусі.

Рэдкіх спецыялістаў, у багажы якіх не толькі "корочки" аб вышэйшай адукацыі, але і вялікі вопыт, уласныя напрацоўкі і веданне замежных моў, зразумела, з рукамі адрываюць хоць у Еўропе, хоць у Азіі, хоць у абедзвюх Амерыках. Тыя ж, у каго не хапае кваліфікацыі, практычнага вопыту або наўпрост смеласці, найчасцей едуць у суседнія Расію і Украіну — каб было лягчэй вярнуцца, калі штосьці не атрымаецца. Асноўная плыня мігрантаў, як прызнае нават беларускае МУС, скіравана ў Расію.

Аб тым, наколькі беларускія ўлады занепакоены сітуацыяй, сведчыць заява першага намесніка міністра працы і сацабароны Пятра Грушніка аб тым, што ў 2012 годзе міністэрства ініцыіруе абследаванне хатніх гаспадарак з мэтай уліку міграцыйных працэсаў, у прыватнасці праверкі таго, колькі суайчыннікаў насамрэч з'ехалі на заробкі ў Расію.

## ХТО, ХТО Ў ЦЕРАМКУ ЖЫВЕ?

З лета мінулага года, як расказалі нам у адным з кадравых агенцтваў Масквы, колькасць саіскальнікаў з беларускімі пашпартамі ў іх базе павялічылася прыкладна на трэць. Сярод іх па-ранейшаму лідзіруюць прадстаўнікі будаўнічых спецыяльнасцей. На другім месцы — сфера абслугоўвання: прадаўцы і касіры, афіцыянты, фітнес-інструктары, нянькі, супрацоўнікі салонаў прыгажосці, кухары, мерчандайзеры, упакоўшчыкі і г.д. Потым ідуць IT-спецыялісты і менеджары. Журналісты, прадпрымальнікі, кіраўнікі сярэдняга і вышэйшага звяна ўладкоўваюцца, як правіла, самастойна — да канкрэтнага працадаўцы, на загадзя агавораную вакансію і зарплату. Яны ж найчасцей уладкоўваюцца працаваць не на сезон-другі, а на працяглы тэрмін з перспектывай застацца назаўсёды.

> "Нават адстаўны патрыёт рэжыму былы старшыня Белтэлерадыёкампаніі Аляксандр Зімоўскі вучыць цяпер беларусаў любові да сінявокай... з берагоў Нявы".




*Ад нас актыўна "плывуць" за мяжу, у першую чаргу, не прастытуткі*

А што здзіўляцца, калі, да прыкладу, нават кваліфікаваны грузчык-камплектоўшчык можа разлічваць на заробак у памеры 700—800 долараў, вопытны касір — на 600—900 долараў, будаўнік высокай кваліфікацыі — на 1000—1500 долараў, а журналіст з вопытам работы — на 1500—2500 долараў. Прычым працадаўцы часта прадастаўляюць ці дапамагаюць з жыллём, а ўладкавацца могуць не толькі саіскальнікі "ад 25 да 45". Не палохаюць патэнцыяльных працоўных мігрантаў нават махляры, дарагое жыллё, больш высокі ўзровень крыміналу і аповеды бывалых пра дзясяткі спосабаў падману прыезджых.

"У мяне, лічу, склалася ідэальная сітуацыя для пераезду: вышэйшая адукацыя плюс вопыт работы на расійскіх заказчыкаў, маладосць і адсутнасць сям'і, а значыць — ёсць мабільнасць, — дзеліцца тэсціроўшчык Сяргей Мартыненка. — Калі чатыры гады назад сябар прапанаваў мне "пакарэнне Масквы", я думаў нядоўга — дня тры, калі быць шчырым. Столькі ж спатрэбілася для агляду вакансій і афармлення дамоўленасці наконт наёмнай кватэры. І праз пару тыдняў пасля прыезду мы працаўладкаваліся — адразу "па-беламу", з сацпакетам. Цяпер мне хапае грошай і кватэру здымаць, і вандраваць, і бацькам, якія засталіся ў Беларусі, крыху дапамагаць. Настальгіі не адчуваю, бо ўсё ж прыязджаю да родных некалькі разоў на год. Вярнуцца? Ты што, смяешся?!"

Ва ўсіх на слыху імёны папулярных беларускіх артыстаў, якія здолелі раскруціцца менавіта па-за межамі радзімы: Дзмітрый Калдун, Руслан Аляхно, Наталля Падольская, Сярога, Б'янка (Таццяна Ліпніцкая), Паліна Смолава ды нават "каўбасная каралева" Анжаліка Агурбаш, а таксама мноства тэлевізійных персон — Ягор Хрусталёў, Сяргей Дарафееў, экс-капітаны каманды КВЗ БДУ Леанід Купрыда і Віталь Шляпо, "камедыклабавец" Вадзім Галыгін, рэжысёр Сяргей Талыбаў, акцёры Анатоль Кот, Аляксей Шадзько, Вольга Фадзеева і многія, многія іншыя. Нават адстаўны патрыёт рэжыму былы старшыня Белтэлерадыёкампаніі Аляксандр Зімоўскі вучыць цяпер беларусаў любові да сінявокай... з берагоў Нявы, дзе працуе медыякансультантам.

## У "ВЫРАЙ" І "З ВЫРАЮ"

Прычыны пераезду ва ўсіх розныя. Найчасцей, зразумела, грашовыя, але не заўсёды яны адыгрываюць галоўную ролю.

"Ведаеш, я з'ехала б з Мінска ў любым выпадку, — прызналася мне сяброўка Ганна, якая вось ужо некалькі год працуе ў буйной расійскай кінакампаніі. — Не толькі таму, што дасягну-

### ТОЛЬКІ ЛІЧБЫ

**Паводле звестак усерасійскага перапісу насельніцтва 2010 года, у РФ пражывалі больш за 520 тысяч беларусаў, прычым у адной толькі Маскве — 39 225. Але гэтая статыстыка ўлічыла толькі тых, хто афіцыйна зарэгістраваны ў федэральнай міграцыйнай службе. Беларускія студэнты, будаўнічыя брыгады — "вахтавікі" ды іншыя шабашнікі ці ўвогуле нелегалы ў пералік, вядома, не трапілі.**

**Наколькі рэальныя лічбы адрозніваюцца ад афіцыйных, можна меркаваць хоць бы па такім параўнанні: па звестках Дэпартамента па грамадзянстве і міграцыі МУС РБ, за першы квартал 2011 года з Беларусі выехалі на працаўладкаванне 612 чалавек, у той час як ва ўпраўленні ФМС Расіі па Маскве за той жа перыяд зарэгістраваліся з мэтай працаўладкавання 1500 беларусаў.**

# КАЛЯ 150 ТЫСЯЧ БЕЛАРУСАЎ

ла "столі" і спынілася ў развіцці на былым працоўным месцы, а найперш таму, што з-за алергіі была вымушана жыць на таблетках. Мокры нос, чырвоныя вочы, пастаяннае чханне — уяўляеш? Тое яшчэ "шчасце"… І цяпер, калі прыязджаю да мамы, праз некалькі дзён зноў пачынаю прымаць антыгістамін. У Маскве ж больш зусім іншая вільготнасць, і там у мяне няма праблем нават падчас цвіцення акацыі, таполяў і г.д.".

"Не магу сказаць, што паехаў найперш на заробкі. Хутчэй, змяніў абстаноўку. Проста не бачыў свайго месца ў Беларусі, — прызнаецца Дзяніс Крэчат, які працуе ў золатагаловай намеснікам шэф-кухара ў рэстаране. — Бо паехаў у нікуды, адразу, лічы, пасля арміі, у няпоўны 21 год. Працу і кватэру шукаў ужо на месцы, тут жа авалодаў прафесіяй — да таго гатаваў толькі дома. Пра вялікія грошы не думаў. Хоць, безумоўна, у сезон (Новы год) заробак у мяне вельмі добры, нават па мясцовых мерках сярэдняга класа. На мой погляд, у Маскве вельмі добра спрабаваць уладкаваць сваё жыццё: вельмі шмат магчымасцей, і не так крыўдна, калі штосьці не атрымліваецца. Пачынаеш па-іншаму глядзець на многія рэчы, што адбываюцца навокал. У Беларусі цяпер бываю рэдка, ад сілы двойчы ў год; аб тым, што ўсё змяняецца да горшага, даведваюся ад сяброў і родных. У астатнім праціўна слухаць, як масквічы даказваюць мне, што ў Беларусі ўсё добра, бо тутэйшыя і нашы газеты так сцвярджаюць… Ці хачу я вярнуцца? Зараз дакладна не. Мо гадоў праз дзесяць пачну думаць пра гэта, але мушу сказаць, што сваю старасць я не хацеў бы сустрэць у Маскве ці ўвогуле ў Расіі".

Практычна ўсе "гастарбайтары" ўсё ж прыязджаюць у Беларусь: сямейныя — як мінімум раз на месяц, маладыя ды жвавыя — пару разоў за год. Некаторыя працуюць у Маскве, а жывуць у асноўным у Мінску; некаторыя імкнуцца ажыццявіць еўрапейскі прынцып "жыві там, дзе працуеш". Але вярнуцца жыць і працаваць у Беларусь назаўсёды плануюць адзінкі з соцень і тысяч тых, хто з'ехаў на працу ў іншую краіну.

Зрэшты, ёсць і адваротны працэс: у Беларусь на працу таксама прыязджаюць прадстаўнікі іншых нацыянальнасцей. Паводле звестак МУС РБ, найперш гэта грамадзяне Украіны, Узбекістана, Казахстана, Малдовы, Турцыі, Кітая, В'етнама, радзей Літвы, Германіі. Працуюць замежнікі ў будаўніцтве, гандлі, сельскай гаспадарцы, лічаныя адзінкі — на кіраўніцкіх пасадах, трэнерамі, шэф-кухарамі.

— Не магу сказаць, што афіцыйныя лічбы працоўнай міграцыі адпавядаюць рэчаіснасці, проста таму, што ніякага ўліку тых, хто з'ехаў за мяжу на заробкі, не існуе, — заўважае былы міністр працы РБ Аляксандр Сасноў, параўноўваючы такія розныя звесткі. — Калі на памежных пунктах пропуску яшчэ можна падлічыць колькасць тых, хто выехаў у краіны з візавым рэжымам, то мяжа з Расіяй адкрыта, і грамадзяне ні перад кім не трымаюць справаздачу аб тым, з якой мэтай яны туды едуць. Таму якая лічба ўсё ж бліжэйшая да рэальнай, гаварыць не бяруся. Але прывяду іншыя даныя. Напрыклад аб тым, што з прадпрыемстваў і будоўляў знікаюць людзі, якія там надта патрэбны, высокакваліфікаваныя кадры, і гэты працэс толькі паскорыўся пасля крызісных падзей мінулага года. На мой погляд, спецслужбы Беларусі пачалі нейкую работу ў гэтым кірунку — ідзе вал публікацый аб тым, што ў Расіі гінуць шмат нашых працоўных мігрантаў. Верагодна, гэта робіцца для таго, каб аслабіць у людзей жаданне выехаць на заробкі. Таксама ёсць звесткі, што на Магілёўшчыне расіян усё часцей "прэсуюць" невядомыя групоўкі, збіваюць, разбіваюць іх аўто і г.д. Гэта таксама можа быць сведчаннем таго, што нехта наўмысна псуе стасункі паміж расіянамі і беларусамі нават на такім побытавым узроўні.

— Як вы лічыце, якое выйсце было б найлепшым для Беларусі: утрымліваць свае кадры або, не перашкаджаючы ім зарабляць за мяжой, прыцягваць да сябе працоўных мігрантаў, але таксама высокай кваліфікацыі?

— Калі працягваць утрымліваць кадры адміністратыўнымі мерамі — жорсткай кантрактнай сістэмай, пагрозай звольніць "па артыкуле" і г.д., то людзі будуць толькі больш рэзка рваць з працадаўцамі і, хутчэй за ўсё, з'язджаць ужо назаўсёды. Хаця тыя, хто хацеў, ужо з'ехалі. Магчыма, працэс працоўнай міграцыі крыху запаволіцца, але не таму, што жыць у Беларусі стане лепш, а выключна з-за пагаршэння дэмаграфічнай сітуацыі, бо саміх беларусаў стала менш. Адзінае ж выйсце — гэта зрабіць свабодную эканоміку, куды дзяржава не лезла б. Але ў нас гэта немагчыма, бо ва ўладных структур іншы погляд на тое, якой мусіць быць эканоміка. Лепш за ўсё, каб тыя, хто займае высокія пасады, пайшлі ў адстаўку, а тыя, хто прыйдзе на іх месца, разбяруцца, што рабіць.

Працэс "уцёку" айчыннай працоўнай сілы наўрад ці запаволіцца, калі ў эканоміцы і сацыяльнай сферы краіны не адбудуцца сур'ёзныя, а мо нават і рэвалюцыйныя змены. Як казаў герой фільма "Вяселле ў Малінаўцы" Папандопула, "калі далей справа так і пойдзе, я таксама разбягуся ў розныя бакі…".

**ВІКТОРЫЯ ПРАКАПОВІЧ**

**ДАРЭЧЫ**

## НЕ ГРАШЫМА АДЗІНЫМІ

*"Мы занепакоены міграцыяй. Гэта праблема няпростая, і вырашаць яе трэба з улікам таго, што акрамя зарплаты ёсць і іншыя стымулы для стрымлівання выезду спецыялістаў у іншыя краіны,* — заявіў на лістападаўскім пасяджэнні Саўміна **прэм'ер-міністр РБ Міхаіл Мясніковіч**. — *У першую чаргу гэта будаўніцтва жылля. Ёсць праблема адтоку кадраў у будаўнічай галіне, машынабудаванні і па шэрагу іншых дэфіцытных спецыяльнасцей, калі легальнымі і не вельмі легальнымі метадамі пераманьваюць кадры ў іншыя дзяржавы".*



**НАГОДА ДЛЯ РОЗДУМУ**

**Паводле звестак МУС РБ, у 2011 годзе на заробкі за мяжу (найчасцей у Расію, ЗША, Германію) з'ехалі 4,8 тысячы беларусаў, у 2010 — прыкладна 4000 чалавек, у 2009 — каля 4,2 тысячы. Між тым, паводле ацэнак экспертаў Праграмы па бяспечным выездзе за мяжу "Ла Страда Беларусь", колькасць незарэгістраваных працоўных мігрантаў з Беларусі больш чым у 30 разоў перавышае зарэгістраваную лічбу і дасягае як мінімум 150 тысяч чалавек штогод (паводле даных даследчага праекта "Уплыў міграцыйных патокаў на сацыяльна-эканамічныя паказчыкі краіны: вопыт Беларусі", ажыццяўляецца пры падтрымцы Беларускага фонду публічнай палітыкі (BPPF).**

# КАХАННЕ Ў ПОСТ

На пачатку Вялікага Паста “Тут і цяпер” зазірнула ў меню некаторых вядомых беларусаў.

## КУРЭЙЧЫК НІКОЛІ НЕ БЫЎ БЛІЗКІ ДА ЦАРКВЫ

**Драматург Андрэй Курэйчык ніколі не спрабаваў трымаць пост.**

— Я не царкоўны чалавек, таму пост не трымаю, — гаворыць ён. — І не спрабаваў, бо ніколі не быў настолькі блізкім да царквы, каб правілы посту былі для мяне надзвычай важныя.

## РЫМАШЭЎСКІ НЕ САМ САБЕ ЦАРКВА

**Экс-кандыдат у прэзідэнты Віталь Рымашэўскі прытрымліваецца посту з тых часоў, як стаў веруючым.**

— Правілы посту не такія ўжо і простыя, як падаецца на першы погляд, але я, як і ўсе хрысціяне, да Вялікадня трымаю пост, — тлумачыць Віталь. Гэта перш за ўсё час для роздуму, удасканалення свайго духоўнага жыцця. У дадзены перыяд усе вернікі больш часу вылучаюць на малітвы, свае духоўныя патрэбы. Устрыманне ад ежы — гэта другасная справа, хаця таксама істотная. Ежа — толькі пачатак.

Яшчэ важная рэч: перш чым распачынаць пост, трэба абавязкова параіцца з царквой, атрымаць благаслаўленне, бо ў царкоўным жыцці вельмі важна не быць самаўладным чалавекам, які сам сабе царква. На жаль, многія людзі ў нас успрымаюць пост толькі як культурную традыцыю — яны чытаюць у інтэрнэце пра строгія манашаскія правілы посту і пачынаюць гэтым кіравацца. Насамрэч для таго, каб правесці пост згодна з царкоўнымі правіламі, абавязкова трэба параіцца са святаром. Для кожнага чалавека пост (у тым ліку і абмежаванне ў ежы) павінен быць індывідуальным. Напрыклад, не рэкамендуецца трымаць пост цяжарным жанчынам. У некага, магчыма, не дазваляюць гэта рабіць хваробы ці звышскладаныя ўмовы працы.

Царква ставіцца да кожнага індывідуальна. І калі чалавек узяў заданне на пост, то для яго гэты пост будзе лёгкім. І яшчэ раз падкрэслю: гэта тычыцца не ежы, а выпраўлення свайго жыцця.



*Пост – кожны выбірае па сабе*

> Кожны павінен устрымлівацца ў той ступені, каб не проста цягнуць ногі, але і штонебудзь рабіць

**ЯК БЫЦЬ, КАЛІ...**

• **Прыйшоў у госці, а на стале амаль няма посных страў?**

Святары кажуць так: каб не пакрыўдзіць гаспадыню, якая гатавала стравы, альбо ешце тыя стравы, якія з'яўляюцца нішчымнымі, альбо проста ўстрымайцеся ў пост ад наведвання гэтых людзей — наведаеце іх у іншы час.

• **Да цябе прыйшлі госці — значыць, ежа для іх павінна быць нішчымнай? А калі госці пост не трымаюць?**

Пажадана частаваць гасцей нішчымнай ежай. "Але ў любым выпадку мы самі, прымаючы такіх гасцей, павінны трымаць пост", — кажуць у царкве.

• **Цэлы дзень сядзіш на працы, а побач — толькі звычайная сталоўка?**

"Кожны павінен устрымлівацца ў той ступені, каб не проста цягнуць ногі, але і штонебудзь рабіць, — даюць рэкамендацыі святары. — Адзін духоўнік казаў, што калі чалавек памірае ад посту, то гэта грэх самагубства. Таму можна вызначыць для сябе: так, я не змагу абыходзіцца гэтым постам без сланечнікавага алею, але затое змагу абыходзіцца без лішняй балбатні на працы, без тэлевізара, без асуджэння або ўдзелу ў нейкіх іншых нягодных мерапрыемствах. Я адключыў сябе ад забаўляльнай часткі інтэрнэту. Магчыма, дам сабе заданне прачытаць нейкія кнігі...”.

## НАТАЛЛЯ ПАДОЛЬСКАЯ ГУБЛЯЕ КІЛАГРАМЫ

**Спявачка кажа, што ў мінулым годзе падчас посту схуднела да 49 кілаграмаў (пры росце 172 сантыметры).**

— Мне як чалавеку веруючаму знаходзіцца ў добрай форме нескладана, — распавяла Наталля Падольская ў адным са сваіх апошніх інтэрв'ю. — Падчас гэтага посту буду старацца ўжываць толькі раслінную ежу — кашы, грыбы, агародніну, хлеб. Ніякіх тлушчаў і малочных прадуктаў. Для мяне, праўда, часам гэта выходзіць бокам — худзею так, што проста скура і косці застаюцца. Знікаю на вачах! У мінулым годзе дайшла да 49 кг, і гэта пры росце 172 см...

Дарэчы, пост адвучыў спявачку ад такога напою, як кава з малаком.

— Каве аддаю перавагу нямоцнай і без малака, — гаворыць спявачка. — Адвучылася ад кавы з малаком таксама ў пост, паколькі нельга ўжываць жывёльныя тлушчы. З іншага боку, кава — гэта адзіная мая шкодная звычка, так што нічога страшнага...

## СТУЖЫНСКАЯ СЛАБАЯ ДУХАМ

**Старшыня грамадскага аб'яднання "Беларуская жаночая ліга", вядомы гісторык Ніна Стужынская прытрымліваецца поснага меню не кожны дзень.**

— Імкнуся прытрымлівацца нішчымнага меню ў сераду і пятніцу, — распавядае Ніна Іванаўна. — Але зараз па стане здароўя не магу грэбаваць бялковай ежай. Раней я спрабавала трымаць пост, але ўдалося пратрымацца не больш за два тыдні — слабая духам і вельмі занята заўсёды, а пост патрабуе канцэнтрацыі ўвагі і высілкаў.

**ІНТЫМНЫ МОМАНТ**

## КАХАННЕ ВАЖНЕЙШАЕ ЗА ПОСТ

**Як ставіцца Царква да шлюбных адносін падчас посту?**

Вось як адказаў на гэтае пытанне ўпаўнаважаны Бе-

**ДАРЭЧЫ**

**Вялікі пост — саракадзённы літургічны перыяд падрыхтоўкі да Велікодных сьвятаў, які пачынаецца ў Папяльцовую сераду. На ўзор саракагадовага вандраваньня, якое, распачаўшыся ў свята Пасхі, прывяло выбраны народ з эгіпэцкай няволі ў зямлю абяцаную, а таксама па прыкладу самога Хрыста, які сорак дзён прабываў у пустыні, Касьцёл рыхтуецца да Пасхальнага Трыдуума. Гэты перыяд зьвязаны з пакаяньнем і аскезай, а таксама асаблівым чынам прысьвечаны разважаньню над Мукай Пана (пасійныя набажэнствы). У хрысьціянскай традыцыі Вялікі пост заўсёды быў зьвязаны з устрыманьнем ад удзелу ў забавах, ад мясных страваў і ад алькаголю.**

ларускага Экзархата па сувязях са сродкамі масавай інфармацыі **Яўген Свідэрскі** падчас нядаўняй анлайн-канферэнцыі на сайце belta.by: *“Апостал Павел у адным са сваіх пасланняў кажа: “Не ўхіляйцеся адно ад аднаго, хіба па згодзе, на час, каб быць у посце і малітве, а потым зноў будзьце разам, каб не спакушаў вас сатана няўстрыманнем вашым”. Гэта значыць гатоўнасць да ўстрымання павінна быць узаемнай. Калі ж адзін з бакоў да гэтага не гатовы, трэба кіравацца законам кахання. Каханне вышэйшае за пост. І шлюбныя адносіны павінны быць працягам таго, што адбываецца паміж людзьмі ў духоўным плане.*

*З іншага боку, калі ў адносінах ёсць гармонія, то гэтае пытанне нават не ўзнікне. Муж і жонка самі знойдуць адказ без парад людзей збоку. Па дапамогу да святара варта звярнуцца толькі ў тым выпадку, калі паўстане пытанне аб тым, што рабіць, калі другая палова не хоча ўстрымлівацца. У выніку, важней за ўсё захаваць каханне і павагу ў сям'і. Але зноў жа, у ідэале і ў гэтым баку посту трэба імкнуцца да поўнага ўстрымання".*

**МАРЫНА МІТ**

# ТУРМА МАЁЙ МАРЫ: ФОТАПРАЕКТ БЕЛАРУСКІХ АРЫШТАНТАК

У турме цяжка. У беларускай турме яшчэ цяжэй. Жанчынам у беларускай турме цяжэй за ўсё. Супраць быдлячых умоў утрымання яны маюць толькі мары. І аб гэтых марах адмысловы фотапраект дванаццаці сукамерніц — “Ізаляцыя”.

Дзяўчат схапілі на вуліцы і пасадзілі за краты. Так яны і пазнаёміліся: пакуль дзялілі нары ў камеры № 10 на другім паверсе сталічнага ізалятара часовага ўтрымання, што па вуліцы Скарыны. Сёння ўжо вольныя грамадзянкі **рыхтуюць да выхаду праект “Ізаляцыя”**, які засяроджваецца на побытавым баку пакарання турмой. Карэспандэнтка **“Тут і цяпер”** першай пабачыла макет “жаноцкага супрацiву”.

Тым, хто трапляе за краты, закон гарантуе мінімальныя стандарты ўтрымання. У нашых турмах не выконваецца нават гэты мінімум. Прычыны розныя: няма грошай, няма жадання, няма ўпэўненасці, што арыштант — таксама чалавек.

Дзяўчыны пераканаліся, што ў камеры ізалятара марамі становяцца самыя банальныя рэчы. Есці суп і піць гарбату, а не рознакаляровыя памыі. Права на жаноцкую бялізну — таксама мара. Чысціць зубы над ракавінай, а не над дзіркай у падлозе. Не марозіцца ад халадэчы. Спаць хаця б на нарах, а не на падлозе (не хапае месцаў). Зірнуць на божы свет, пабачыць свой твар, памыць галаву, пастрыгчы пазногці. Усе гэтыя выпрабаванні леглі ў аснову 12 сюжэтаў фотапраекта.

Можаш да хрыпаў патрабаваць недатыкальнасці сваёй асобы, сваёй жыццёвай прасторы, але на тваім баку будзе толькі праўда, якой, як высветлілася, даўно ўжо мала. Ты можаш тысячу разоў мець рацыю, але патрапіш за краты. Для карніцкай сістэмы, створанай такімі ж грамадзянамі, як і ты, няма розніцы мужчына ты ці жанчына, 20 табе год альбо 70, варыш ты баршчы альбо стрыжэш людзей.

Аўтарка праекта “Ізаляцыя” **Даша Сапранецкая** расказвае, як нарадзілася ідэя гэтага календара:

— *Мы сядзелі ў камеры, і нам вельмі хацелася пра ўсё гэтае бясчынства расказаць. Тады мы іранізавалі, што падорым Лукашэнку наш каляндар, як калісьці студэнткі — Пуціну. Аднак не хацелася літаральна паказваць усё тое, што з намі было, альбо рабіць яшчэ адзін бессэнсоўны каляндар “з дзевачкамі”. Таму ідэя паказаць мары аб нармальных рэчах, на якія ў звычайным жыцці не звяртаеш увагі, нараджалася ў пакутах.*

Міжнародныя дакументы па правах чалавека лічаць жанчын уразлівай групай насельніцтва. Яны становяцца надзвычай безабароннымі, калі трапляюць у сферу правасуддзя. Жанчыны маюць патрэбу ў тым, каб дзяржава рабіла адмысловыя захады дзеля абароны іх правоў і законных інтарэсаў.

*Заканчэнне на стар. 8*



# ТУРМА МАЁЙ МАРЫ: ФОТАПРАЕКТ БЕЛАРУСКІХ АРЫШТАНТАК

*Заканчэнне.*
*Пачатак на стар. 7*

Пры ўтрыманні жанчын у месцах пазбаўлення волі часта не ўлічваюць іх адмысловых патрэб, канстатуюць у PRI (Міжнародная турэмная рэформа) Гэтая аўтарытэтная арганізацыя мае на мэце прасоўванне практыкі рэформ правасуддзя і даўно супрацоўнічае з Беларуссю.

Ідэальныя, гуманныя ўмовы адбыцця пакарання для жанчын зняшчаюць "Бангкокскія правілы" — спецыяльная рэзалюцыя ААН, прынятая ў 2010 годзе. Рэкамендацыйныя, а не абавязковы характар маюць гэтыя правілы. І беларускам застаецца толькі марыць… аб ідэальнай турме.

## У РЭЙТЫНГУ ЧАЛАВЕЧНАСЦІ БЕЛАРУСЬ АТАЧАЮЦЬ КЕНІЯ З КАМБОДЖАЙ

Да ведама: Беларусь займае 112 са 153 магчымых месцаў у сусветным рэйтынгу міралюбнасці. Нашу дзяржаву атачаюць Узбекістан, Кенія, Гаіці і Кіргізія. Пры складанні глабальнага індэкса міралюбнасці улічваюцца колькасць зняволеных, выкананне правоў чалавека ў краіне і інш.

Беларусь, дзяржаўны гімн якой абвяшчае беларусаў мірнымі людзямі, каторы год займае ў свеце 3 месца па шчыльнасці зняволеных.

Але як выглядае турэмны быт у рэчаіснасці, да нядаўняга часу было загадкай — сістэма выканання пакаранняў у Беларусі надзвычай закрытая. Павелічэннем колькасці палітычных затрыманняў яна стварыла ўмовы для сацыялагічных даследаванняў. Так, нашы праваабаронцы апыталі 205 беларусаў, што патрапілі ў турмы пасля 19 снежня 2011 года. Вынікі былі прадстаўлены на 47-й сесіі Камітэта супраць катаванняў ААН.

Вось што, у прыватнасці, гаворыцца ў гэтай справаздачы: "Адміністрацыі ІЧУ ўсюды парушалі прынцып асобнага ўтрымання зняволеных. Пітной вады не было падчас усяго часу арышту. Ваду пілі з-пад крана ў камеры, яна была нізкай якасці з моцнам пахам хлору. Не было асобнага спальнага месца, пасцельных прыналежнасцей — усе спалі на адных нарах па 8–10 чалавек. Тэмпература была 10–13 градусаў па Цэльсіі. Санітарная плошча — 2– 2,5 м.кв. Курцоў зняшчалі разам з некурцамі. Штодзённыя прагулкі на свежым паветры не мелі месца".

**ТАЦЦЯНА БУБЛІКАВА**

**ДАРЭЧЫ**

**Праект "Ізаляцыя" цалкам можна будзе пабачыць на прэм'ернай прэзентацыі, якая неўзабаве адбудзецца ў Мінску. Кампанія "Наш дом", пры падтрымцы якой рэалізоўваецца фотапраект, запланавала таксама шэраг прэзентацый у краінах ЕС.**








**Заснавальнік** ТАА "Тут і цяпер" **Адрас** г. Мінск, вул. Касцюшкі, 18
**Галоўны рэдактор** А. Уласаў (email: info@svabodaby.net) **Падпісана ў друк** 22:45 1.03.12
Тыраж 299 экзэмпляраў